ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 76 (1713) | Пятніца, 21 верасня 1962 года | Цана 4 кап.



На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах рэспублікі разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва ў гонар 45-й гадавіны Вялікага Кастрычніка. Муляры будаўнічых трэстаў сталіцы бяруць абавязацельствы датэрмінова закончыць узвядзенне жылых аб'ектаў. Мантажнікі Полацкага нафтаперапрацоўчага завода пачалі спаборніцтва за штодзённае перавыкананне зменных заданняў. Чыгуначнікі водзяць цяжкавагавыя паязды. І так усюды, на якое б прадпрыемства ні прыйшлі, якую будоўлю ні наведалі б. Кожны дзень працоўныя Беларусі дамагаюцца новых поспехаў у імя слаўнай гадавіны.

Пачалі ганаровыя вахты і рабочыя паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа. Тут змагаюцца за прадукцыю высокай якасці — каб кожная выдадзеная кніга была добра надрукавана, каб малюнкі былі чоткія, каб вокладка вабіла чысцінёй і акуратнасцю.

Дастойную сустрэчу святу рыхтуюць друкары афсетнага цэха. Кандыдат у члены КПСС Мікалай Хурцін, якога вы бачыце на нашым здымку справа, узначальвае брыгаду камуністычнай працы. Ён самааддана працуе і штодзённа перавыконвае зменныя заданні на 110—115 працэнтаў. Памочнікам у брыгадзіра працуе малады друкар Георгій Мінаеў. Ён добра вывучыў складаную машыну і дзякуючы гэтаму дамогся высокай прадукцыйнасці. Па вечарах Георгій Мінаеў павышае сваю адукацыю ў вячэрняй школе. Сёлета ён закончыць дзесяты клас і атрымае атэстат сталасці.

Фота Ул. Крука.



# СВЯТЛЕЕ НА ДУШЫ

Паўлюк ПРАНУЗА

Пасля заканчэння сярэдняй школы дзяўчына не цуралася ніякай працы. Хадзіла на луг грэбці сена, у жніво ўвіхалася ля малатарні. Не сядзела склаўшы рукі і зімой.

У калгасе заўважылі Ірыну, як працавітую дзяўчыну.

Кнігу дзяўчына палюбіла яшчэ ў школе і цяпер не расставалася з ёю. Ідзе на працу і бярэ з сабою то якую брашуру, то мастацкі твор. Любоў да кнігі падказала ісці вучыцца ў бібліятэчны тэхнікум, які яна паспяхова скончыла.

Першыя крокі самастойнай работы былі нялёгкімі: памяшканне бібліятэкі цеснаватае, неабсталяванае. Хто сюды пойдзе? Чым зацікавіць людзей? — хвалявала маладога бібліятэкара.

Вечарамі ў бібліятэку заходзіла моладзь. Некаторыя юнакі спрабавалі нават у «дурня» рэзацца. А некаторыя прыносілі, як знарок, поўныя кішэні гарбузікаў і трушчылі іх.

— Вопыту работы ў мяне не было, — расказвае Ірына Савасцей. — З чаго пачынаць? Хто можа памагчы? Сама ж усяго не зробіш! — гэтак думала Ірына. А потым, як бы схамянулася: — Вось дзівачка! Школа побач. А колькі выпускнікоў у калгасе, завочнікі — гэта ж тыя людзі, якія вунь як могуць памагчы.

Калі Ірына зірнула ў спісы, аж за галаву схапілася:

— Столькі народу, а чытачоў мала.

Неўзабаве ў бібліятэцы быў наведзены парадак. Прыгожа, з густам расстаўлены на паліцах кнігі, на стале — свежыя газеты, часопісы, на сценах — плакаты, рэкамендацыйныя спісы літаратуры.

У вольную часіну Ірыну заўсёды можна было ўбачыць на брыгадным двары.

— Наш агітатар прыйшоў, — з цеплынёй гаварылі калгаснікі.

Дзяўчына расказвала калгаснікам пра падзеі ў краіне і за рубяжом, а іншы раз разгортвала кнігу і чытала.

Калгаснікі слухалі яе ўважліва. Ірына ў гутарцы высвятляла, хто і чым цікавіцца, што чытае. Часта яна чула і такія словы:

— Часу няма кнігі чытаць, ды ці ў нашы гады імі захапляцца.

Аднойчы Ірына пайшла на поле. Брыдка было глядзець, як некаторыя працуюць. Разам з жанчынамі яна сама ўзялася за работу. Калгасніца Надзея Нагорная паглядзела на бібліятэкарку, сказала:

— Мы самі ўправімся з праполкай. Вы вунь лепш нам штонебудзь пачытайце.

У час перапынку жанкі прыселі адпачыць. Ірына пачала ім чытаць раман Івана Шамякіна «Трывожнае шчасце». Непрыкметна яна сачыла, як яе слухачы рэагуюць на кнігу. Потым заўважыла, як адна жанчына, схаваўшыся за спіну другой, падносіць да вачэй ражок хусцінкі. Відаць, прачытанае нагадала ёй нешта блізкае, дарагое, а магчыма і балючае...

Назаўтра адвячоркам, ідучы з поля, Надзея Нагорная зайшла ў бібліятэку і сказала Ірыне:

— Дай мне, даражэнькая, тую кнігу, што на полі нам чытала. Вельмі ж спадабалася. Праўда ў ёй пішацца. — Потым падышла да кніжнай паліцы і ўзяла яшчэ аповесць Рамана Сабаленкі «Іду ў жыццё».

— Вы толькі доўга не затрымлівайце кніг, — папрасіла бібліятэкарка: — У нас іх толькі па два экземпляры, а попыт на іх вялікі. Так і пераходзяць з рук у рукі.

Вечарамі ў бібліятэцы станавілася больш людна. То праводзілася якая-небудзь гутарка, то тэматычны вечар. Чытачы бралі не толькі мастацкую літаратуру. Даярак Надзею Марук і Валянціну Олюх зацікавіла брашура «Даяркі-пяцітысячніцы».

Першыя поспехі ў рабоце акрылілі Ірыну, надалі ёй сілы. Але яна не магла задаволіцца дасягнутым. Часта яе трывожыла думка: а як быць з тымі, што далёка жывуць ад бібліятэкі?

Параілася з актывам. Трактарыст камсамолец Мікалай Гуліцкі прапанаваў:

— Давайце мне перасоўку ў вёску Долкінды. Вечарамі буду выдаваць кнігі.

Зачасцілі ў яго дом і моладзь і пажылыя. Узяла з яго прыклад камсамолка Феафанія Зянкевіч. Настаўнікі мясцовай школы таксама не засталіся ў баку: Надзея Паклонская выступіла з лекцыяй «Мы будзем жыць пры камунізме», Яніна Акулік прачытала лекцыю «Шчасце ў працы».

Кніга трывала ўвайшла ў быт хлебаробаў калгаса «Новае жыццё». Няма ўжо ніводнага дома, дзе б не чыталі бібліятэчнай кнігі. Яна стала дарадчыцай, крыніцай ведаў. Неяк Ірына зайшла на плантацыю цукровых буракоў. Была раніца. Жанчыны пачалі прарыўку. Ірына, заняўшы «дзялянку», працавала з імі побач. Але, калі яна ўбачыла, як працуюць жанчыны, спынілася і падышла да адной з іх.

— Пачакайце, што вы робіце? Я вось у кнізе чытала, што трэба па аднаму каліву пакідаць. Кніга гэтая пры мне.

Тут жа знайшла адпаведнае месца і гукнула астатніх:

— Паслухайце, што напісана ў кнізе. Лішнія калівы ў гняздзе пакідаем. — І яна прачытала цэлы абзац.

— Дык нам жа аграном зімою на агратэхкурсах гаварыў пра гэта, — кінула маладая калгасніца. — А мы сваё...

Ірына пачала тлумачыць, як трэба правільна рабіць прарыўку. Жанчыны слухалі ўважліва і хоць не ўсе пагаджаліся з новай прапановаю, але рабілі так, як раіла кніга.

Пазней, калі буракі залапушыліся і пайшлі ў рост, калгасніцы, што рабілі прарыўку, спаткаўшы Ірыну, паведамлялі ёй з радасцю:

— Ты праўду казала, даруй нам, што спрачаліся тады з табой. Цяпер буракам і паветра хапае і сонца. Нішто ім не замінае.

Нялёгкая работа ў сельскага бібліятэкара. Выдаць кнігу — гэта яшчэ не значыць абслужыць чытача. А чытачоў нямала. Розныя людзі і па ўзросту і па характару. Трэба ведаць, чым яны цікавяцца, якая іх адукацыя. Аднаму такая работа не пад сілу. Немалы актыў працуе пры бібліятэцы. За асобнымі чытачамі, састарэлымі людзьмі, замацаваны камсамольцы. Маладая калгасніца Ірына Акулік у вольны час чытае Міхаілу Андросіку «Дрыгву» Якуба Коласа. Такія ж даручэнні выконваюць камсамольцы Люся Самопчанка, Лёня Марук.

Часта заходзяць у Каменскую сельскую бібліятэку «акадэмікі». Так называюць у калгасе тых, хто вучыцца ў Горацкай акадэміі ці ў сельскагаспадарчых інстытутах.

— Што новага атрымалі? — пытаюць яны бібліятэкарку.

Іх цікавяць не толькі мастацкія кнігі, але і навуковыя, якія яны выпісваюць праз бібліятэку з Мінска. Галіна Нагорная, Алена і Леакадзія Шафранскія, Марыя Пракарына хутка атрымаюць вышэйшую адукацыю. Любяць яны зямлю, свой калгас і сваёй працай памнажаюць яго багацце. А вечарамі ў калгасным клубе можна пачуць іх звонкія песні. Некаторыя з іх удзельнічаюць у драматычным гуртку.

Ідуць калгаснікі да Ірыны Савасцей і як да дэпутата сельсавета. Хто пытае парады, хто якой дапамогі. Неяк зайшоў у бібліятэку састарэлы калгаснік. Ірына здзівілася: што магло прывесці сюды гэтага чалавека?

А той адразу пачаў расказваць пра сваю бяду: — Стары я, хачу параіцца, як мне трапіць у дом інвалідаў. Памажыце мне.

Ірына ўважліва выслухала старога і не пакінула яго просьбу без увагі, памагла ўладкавацца старому ў дом інвалідаў.

Аднойчы вясною ёй паступіла скарга, што ў краме няма тавараў першай неабходнасці. Па разбітай гразкай дарозе пайшла Ірына ў краму праверыць гэтую скаргу. Крамнік сказаў:

— Бачыце, якая дарога. Ці ж можна што прывезці? Прыйдзецца пачакаць.

— А чаму ж вы не паклапаціліся, каб тавары завезці крыху раней? — перабіла яго пытаннем Ірына. — Ці вы пра людзей забыліся? Каму вы служыце?...

З агеньком працуе Ірына Савасцей у сельскай бібліятэцы. Гэта — сціплы працаўнік. Паважаюць яе ў калгасе. Цяжка нейкай асобнай меркай вымераць яе працу. Яна не водзіць камбайна, не арэ калгаснай нівы, не даглядае арцельнага статку. Але і яе праца відна. Відна ў тым, як чалавек узбагачаецца ведамі, чытаючы кнігі, расце, і ў тым, як святлей робіцца на душы ў хлебаробаў, калі яны чуюць са сцэны калгаснага клуба вясёлую песню ці слухаюць прачулую гутарку на ферме, у брыгадзе. Багацее ад гэтага і душа Ірыны Савасцей. Яна адчувае, што яе сціплая праца памагае калгаснікам у жыцці і адпачынку.

Нясвіжскі раён.

## УСЕСАЮЗНАЯ ВЫСТАЎКА Ў МІНСКУ

Сёння ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрываецца Усесаюзная выстаўка жывапісу, графікі і скульптуры. На ёй прадстаўлена каля 300 работ мастакоў братніх рэспублік, у тым ліку і беларускіх. Гэта толькі частка твораў, якія экспанаваліся летась у маскоўскім манежы. Іх ужо паглядзелі ленінградцы, талінцы, рыжане і вільнюсцы. Другія работы ўключаны ў экспазіцыю, якая робіць падарожжа па маршруту Кіеў — Харкаў — Львоў — Адэса — Баку і г. д. А лепшыя творы, у тым ліку карціны беларускага мастака М. Данцыга «Гудзе зямля салігорская», адпраўлены ў зарубежнае турнэ па заходніх краінах.

Тым не менш, экспазіцыя мінскай выстаўкі дае ўяўленне аб развіцці сучаснага савецкага выяўленчага мастацтва. Разнастайнасць нацыянальных школ, стыляў і тэматыкі прадстаўленых работ раскрывае багацце творчых індывідуальнасцей і імкненняў мастакоў. Выстаўка адлюстроўвае гэтыя радасныя зрухі, як, між іншым, і тыя тэндэнцыі, якія сёння ўжо выглядаюць архаічнымі, шаблоннымі. Таму яна і выклікае спрэчкі і роздум.

## ДВАЦЦАЦЬ АМАТАРСКІХ ФІЛЬМАЎ

Каля 20 фільмаў выпусцілі за апошні час аматарскія кінастудыі Магілёўскай вобласці. Яны цяпер шырока дэманструюцца ў рабочых клубах.

Учора ў Магілёве адбыўся першы грамадскі прагляд новых кінакарцін. Высокую ацэнку атрымаў фільм «У музеі Леніна». Ён створан калектывам юных кінематаграфістаў дзіцячага клуба Магілёўскага завода штучнага валакна пад кіраўніцтвам пенсіянера В. І. Багайчука. У мінулым годзе рабяты дзіцячага клуба арганізавалі першы ў вобласці музей Ул. І. Леніна. Многія яго экспанаты прысланы па просьбе дзяцей з Польшчы, Чэхаславакіі, Кітая, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі. Музей стаў любімым месцам школьнікаў. Тут часта праходзяць сустрэчы са старымі камуністамі. Аб усім гэтым і расказваюць кадры фільма.

Значную цікавасць мае карціна «Пералом шыйкі бядра». Яе аўтары — група ўрачоў абласной бальніцы — расказваюць аб новым спосабе хірургічнага ўмяшання і лячэння хворых. Добрае ўражанне пакінулі жыццярадасныя кадры фільма «Заводскія навіны», выпушчанага аматарамі студыі завода пад'ёмна-транспартнага абсталявання імя Кірава. Гэтыя карціны абласное журы вырашыла паслаць на рэспубліканскі агляд.

(БЕЛТА).

## У ГОНАР СТАРЭЙШАЙ БІБЛІЯТЭКІ

У Палацы культуры прафсаюзаў Мінска адбыўся вялікі агульнагарадскі вечар, прысвечаны 40-годдзю Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў сталіцы, інтэлігенцыя, студэнты, хатнія гаспадыні. Віншаваць старэйшую бібліятэку прыехалі культасветработнікі Масквы, Ленінграда, Кіева, Вільнюса, Рыгі. Яны зачыталі прывітальныя адрасы старэйшай скарбніцы ведаў Беларусі.

Аб гісторыі ўтварэння ўстановы, аб яе кніжным фондзе і чытачах расказаў прысутным дырэктар бібліятэкі Ф. Сцепанюк. Затым удзельнікі самадзейнасці Палаца культуры далі вялікі канцэрт.

## ЖОДЗІНСКІЯ ТАЛЕНТЫ

Пры Палацы культуры Беларускага аўтазавода створан рад самадзейных калектываў — харавы, драматычны, танцавальны, эстрадны аркестр. У іх удзельнічае каля 180 чалавек. У асноўным гэта рабочыя і работніцы завода, члены іх сем'яў. З самадзейнымі артыстамі займаюцца вопытныя музыканты і артысты. Харам і эстрадным аркестрам кіруюць В. Лінкевіч і І. Перальман, танцавальным калектывам — П. Булдакоў. Заводскія аматары мастацтва паспелі заваяваць любоў у гледачоў не толькі гарадскога пасёлка Жодзіна, але і мінчан. Задорныя, вясёлыя танцы жодзінцаў палюбіліся рабочым аўтамабільнага, трактарнага і радыёзавода.

Да Дэкады самадзейнага мастацтва рэспублікі самадзейнасць Беларускага аўтазавода рыхтуе вялікую тэматычную праграму: «Мы — аўтазаводцы». Музыку да яе напісаў кампазітар Ю. Семяняка.

Выступае харавы калектыў.



Рабочыя завода (злева направа) Э. Урублеўскі і Г. Чалапан развучваюць новы інструментальны нумар.



І. Перальман займаецца з вакалістамі Л. Балашэнка і Л. Новікавай.
Фота Г. УСЛАМАВА. (БЕЛТА).

Мастацтва ў быт

# ХТО ДЫКТУЕ ГУСТЫ?

Мастацкі тэатр, мастацкі музей, мастацкая літаратура. Мы прывыклі адносіцца да гэтых паняццяў з павагай.

А што такое магазін «Мастацкія вырабы»? Фабрыка мастацкіх вырабаў? Наколькі ў дадзеным выпадку слова «мастацкі» адпавядае свайму значэнню?

Перад намі кветкі з паралону і стужак, расфарбаваныя лінючымі анілінавымі фарбамі, «пудовыя» аксамітныя абрусы, упрыгожаныя «залатым шыццём». Перад намі купон жаночай сукенкі, вышыты ўдоўж і ўпоперак, які каштуе не больш не менш як 80 рублёў, навалачкі на падушкі з намаляванымі на іх таўсташчокімі пастушкамі. Можна бясконца працягваць пералік грувасткіх, безгустоўных вырабаў, якія прапануе пакупніку Мінскі магазін мастацкіх вырабаў і на якіх красуецца ярлык: «Белмастакпрамтрэст. Мінская фабрыка мастацкіх вырабаў».

Якія адносіны мае ўся гэта прадукцыя да мастацтва? Хто прыдумвае і зацвярджае падобную безгустоўнасць?

І вось мы на фабрыцы. Мастацкі цэнтр гэтага прадпрыемства — эксперыментальная лабараторыя. Тут мастакі, канструктары, мадэльеры распрацоўваюць новыя ўзоры адзення. Галіна Віктараўна Гарлеа, загадчыца лабараторыі, паказвае нам эскізы, узоры. Ад яе ж мы даведваемся, што фабрыка называецца мастацкай таму, што ўпрыгожвае швейныя вырабы вышыўкай. Але ці ўпрыгожвае?

Галіна Віктараўна шчыра ўздыхае: каму яна патрэбна, гэтая вышыўка! Гарадскі пакупнік яе ўжо амаль не бярэ, і фабрыка працуе на тых, хто адстае ад моды гадоў гэтак на дзесяць.

Загадчыца лабараторыі расказала такую гісторыю. Адна работніца фабрыкі ездзіла неяк у госці на вёску да сваёй знаёмай. Тая пахвалілася абновамі — трыма сукенкамі аднолькавага фасону, аздобленымі адной і той жа вышыўкай, толькі рознага колеру.

Анекдот, але толькі вельмі сумны. Бо за такім вось «патрабавальным» пакупніком ідзе фабрыка, ідуць мастакі, для іх на шоўку і аксаміце вышываюцца бабульчыны і прабабульчыны ўзоры.

Галіна Віктараўна ўспамінае і такі факт. Ёсць у іх мадэль 1956 года. Яе ўжо знялі з вытворчасці. Але да гэтага часу ідуць з раёнаў пісьмы з просьбай аднавіць выпуск гэтай старой і зусім не моднай мадэлі. А калі просяць — чаму не даць. І безгустоўныя рэчы скрозь і ўсюды з'яўляюцца на прылаўках магазінаў.

Але ж калі не будзе ў продажы старых і непрыгодных вырабаў, пакупнік «вымушан» будзе браць моднае і прыгожае!

— Гэта не так проста, — пярэчаць нам работнікі лабараторыі. І гавораць магічнае слова — «план». На жаль, для фабрык Белмастакпрамтрэста ў валавую прадукцыю ўключаецца не толькі кошт апрацоўкі, але і кошт сыравіны. І іменна таму дарагая шэрсць выцясняе танны і модны лён, аксаміт і капрон — палатно. За непатрэбнай вышыўкай часам не відаць і тканіны. І гэта таксама дзеля выканання плана. Аб якой ужо прыгажосці можна тут весці гутарку, калі вышыўка проста наганяе цану.

І яшчэ аб вышыўцы. Пры распрацоўцы ўзораў для яе мастакі абапіраюцца на старадаўнія нацыянальныя беларускія арнаменты. Але адна справа беларускі арнамент на ільняных і баваўняных тканінах, і зусім іншая — на капроне, крэп-жаржэце, крэпдэшыне. Здаецца, мастакі гэта павінны былі б разумець. Аднак на практыцы атрымліваецца наадварот: капрон і шоўк фабрыка атрымлівае ў неабмежаванай колькасці, а лён рэспубліка ільну атрымлівае... з Масквы, прычым вельмі невялікімі партыямі. Лён сёння — модны, але сучасныя і прыгожыя мадэлі, распрацаваныя лабараторыяй, фабрыка выпускаць не можа.

Затое яна выпускае кветкі. Імі завалены цэх і прылаўкі магазінаў. Яны не радуюць вока і, зразумела, не пахнуць. Гэта тыя штучныя кветкі, якія пасля шматлікіх выставак «Цудоўнае ў быт» сталі ў нас сімвалам безгустоўнасці і пошласці. Здавалася б, вытворчасць іх на фабрыцы мастацкіх вырабаў зусім недарэчы. Аднак тут стварэннем гэтых немастацкіх вырабаў займаецца цэлы цэх — 43 чалавекі. Чаму? Аказваецца, Белмастакпрамтрэст імкнецца задаволіць густы ўсё таго ж пэўнага пакупніка, які, нягледзячы ні на што, працягвае купляць гэты тавар.

— Не прывозіць жа іх з Урала, — заўважыла нам упраўляючая трэста В. А. Кенгурава.

— А можа, іх наогул не трэба вырабляць і прадаваць? — спрабуем мы пераканаць дырэктара мастацкага магазіна.

Ёсць жа мноства людзей, у якіх уяўленне аб прыгожым складаецца такім чынам: раз у магазіне прадаецца, значыць, яно і прыгожае і патрэбнае.

А задача магазіна мастацкіх вырабаў — не толькі прадаваць тое, што купляюць, але і выхоўваць густы, мастацкае пачуццё, змагацца з пошласцю і мяшчанствам!

Аднак з намі не згаджаюцца.

— Кветкі — гэта ж прыгожа, — пярэчаць і дырэктар і прадаўшчыцы.

І гэта самае сумнае. Бо ад таго, хто стаіць паміж вытворчасцю і пакупніком, залежыць часам не менш, чым ад мастакоў-мадэльераў. Яны, работнікі магазіна «Мастацкія вырабы», павінны быць людзьмі з мастацкімі ведамі ці хоць бы з добрым густам, бо адна справа гандляваць селядцамі, а іншая — вырабамі мастацтва, няхай не ў крыўду гэта будзе сказана. Ды і не да крыўды тут, бо гаворка ідзе аб важнай дзяржаўнай справе — культурным выхаванні народа, аб задавальненні яго эстэтычных патрабаванняў. І ўжо калі работнікі фабрыкі і трэста, адстайваючы тыя кветкі, спасылаюцца на патрабаванні пакупніка, то чаму б ім не звярнуць увагі на тое ненармальнае становішча, якое склалася з цэхам мастацкага вязання пры атэлье Беларускага мастацкага прамысловага трэста? Цэх гэты выконвае заказы на вязаныя вырабы ад насельніцтва. Прычым выконвае нядрэнна, і прадукцыя яго карыстаецца вялікім попытам. Дастаткова сказаць, што чарга заказчыкаў у атэлье сёння складаецца з трох тысяч чалавек. І пры цяперашніх тэмпах выканання заказаў яны будуць задаволены толькі да 1965 года!

А гавораць аб задавальненні запатрабаванняў. Якое ж гэта задавальненне? Чаму б не расшырыць цэх вязання хоць бы за кошт таго ж кветкавага цэха або цэха вышыўкі? Чаму б акрамя выканання індывідуальных заказаў фабрыцы не паставіць свае вязаныя вырабы — шапачкі, шарфы, кофты, світары, вязаныя камплекты і гарнітуры ў свой магазін мастацкіх вырабаў замест той жа вышыўкі, якой ніхто не бярэ. Шарсцяныя вязаныя вырабы ручной работы цяпер вельмі модныя, яны прыгожыя, практычныя. Урэшце рэшт яны далі б трэсту значна большы даход, чым ужо апісаныя «прыгажосці» фабрыкі.

У цэху вязання толькі трыццаць вязальшчыц. У адным невялікім пакоі праводзіцца і афарбоўка, і сушка, і апрацоўка шэрсці і гатовых вырабаў. Тут жа працуюць і вязальшчыцы. Умовы работы нікуды нявартыя. Кіраўнікі атэлье і трэста неаднаразова звярталіся ў гарвыканком з просьбай прадаставіць вязальнаму цэху другое памяшканне. Але выканком глухі да гэтых просьбаў. Аднак, пакуль удасца знайсці

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## РЫХТУЮЦЦА ДА ДЭКАДЫ

У аматараў хору, танцаў і драмы Пінска цяпер гарачы час. Яны рыхтуюцца да Дэкады самадзейнага мастацтва рэспублікі. Больш 60 розных самадзейных калектываў горада будуць змагацца за права выступаць на сталічнай сцэне. Харавыя і танцавальныя гурткі, эстрадныя аркестры, драматычныя калектывы працуюць на мясакамбінаце, заводзе штучных скур, у педагагічным вучылішчы, пры гарадскім Доме культуры і на розных прадпрыемствах. Хор палескай песні развучвае новыя творы беларускіх кампазітараў.

Днямі адбылося пасяджэнне гарадской камісіі, на якой было вырашана пачаць прагляд самадзейных калектываў горада 1-га кастрычніка.

## СМЕРЦЬ МІКАЛАЯ ПАГОДЗІНА

19 верасня ва ўзросце 62 год памёр Мікалай Фёдаравіч Пагодзін, выдатны савецкі драматург, аўтар многіх п'ес і кінасцэнарыяў, што назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю савецкай драматургічнай літаратуры.

(ТАСС).

# ЗНЯВАГА ПІЛЬНАСЦЮ

А. УЛАДЗІМІРАВА

Гады, як пацеркі... Нярэдка прыходзіла на памяць гэтае вобразнае параўнанне паэта. Але ніколі не думалася, што калі-небудзь яно здолее ажыць, стаць рэальным ці, калі хочаце, нават матэрыяльным. На стале паперкі, пасведчанні, дакументы, выпіскі з загадаў. Пажоўклыя зусім і пажоўклыя толькі трошкі, на шэраватым кардоне вытворчасці гадоў гэтак дваццатых, і на добрай вашчонай паперы пасляваеннага выпуску... Усё жыццё чалавека ўмясцілася ў гэтай грудзе дакументаў. Якім жа доўгім можа быць яно, калі ўвабрала ў сябе столькі падзей, столькі гістарычных фактаў. Для гэтага зусім не абавязкова быць занадта старым, дастаткова проста нарадзіцца ў 1905 годзе, годзе першай рускай рэвалюцыі, а потым увесь свой шлях вымяраць не толькі даўжынёй гадоў.

Вось яны, яго дакументы. Пасведчанне ўдарніка, напэўна, адно з першых пасведчанняў такога тыпу ў краіне. Даволі вялікая кніжачка за нумарам 03755. Чамусьці асабліва кранае гэты нумар. Значыць, яшчэ не так многа ў самым пачатку трыццатых гадоў было выдадзена такіх вось пасведчанняў, калі малады токар Харкаўскага трактарнага завода Пётр Літвін стаў уладальнікам нумара, што не дацягнуў нават да чатырох тысяч. А потым яшчэ адно пасведчанне, больш сціплае з выгляду, але, думаецца, не менш значнае, — пасведчанне рабочага-рацыяналізатара. І яшчэ адно—удзельніка стаханаўскага руху. Побач з пасведчаннямі — загады. Вельмі цікавыя загады, аб пераводах з аднаго месца працы на другое. Чытайце: у іх подых самой гісторыі. Харкаўскі трактарны... Чалябінскі трактарны... Алтайскі трактарны... Рубцоўскі трактарны... І, нарэшце, Мінскі трактарны завод. Подых гісторыі, і подых рамантыкі тых гадоў, калі рабочы клас узняў магутны молат індустрыялізацыі краіны.

Гады, як пацеркі... Толькі пацеркі няроўныя і неаднолькавыя. Ёсць сярод іх больш бліскучыя, ёсць і крыху злінялыя. Ёсць падобныя на сапраўдныя дыяменты, і ёсць падобныя на дробны, засушаны гарох. Такія хочацца хутчэй змахнуць рукой, як некаторыя з гэтых паперак, што ляжаць на стале («Калі-небудзь, будзе час, раскажу падрабязна, што са мной здарылася ў такім вось годзе»), і зноў нанізаць на суровую, моцную ніткy памяці. Нанізаць, але не выкінуць. Бо гэта яго жыццё. Яго шлях, яго радасці і засмучэнні, узлёты і расчараванні. Я не стала дапытвацца, улазіць у душу чалавека, не даўшы волі натуральнай у такіх выпадках цікавасці: а ўсё-такі што ж здарылася ў тым годзе? Пётр Іванавіч пачынае сам.

...Гэта даўняя і сумная, але, здаецца мне, па-свойму ўсё ж цікавая гісторыя. Малады рабочы з пасведчаннем ударніка за нумарам 03755 быў запрошан на адну незвычайную, але характэрную для таго часу вытворчую нараду. Яе праводзіў чалавек, імя якога доўга яшчэ з любоўю і павагай будуць называць старыя кадравыя рабочыя машынабудаўнічай прамысловасці, бо многія з іх ведалі яго асабіста—Сярго Арджанікідзе.

— Ён паставіў перад намі задачу, — Пётр Іванавіч і цяпер з нейкай асаблівай цвёрдасцю і гонарам вымаўляе гэтыя словы: «паставіў перад намі задачу» з націскам на слова «намі», — палепшыць эканамічнасць работы пнеўматычных фармовачных машын.

З групай вучоных і інжынераў завода Літвін непасрэдна ў сваім цэху пачаў праводзіць выпрабаванні, даследаванні, эксперыменты. І не мог супакоіцца, пакуль не знайшоў тое, над чым білася цэлая група вучоных з вядомымі імёнамі. Здарылася так, што яго вывады і разлікі абвяргалі вывады і разлікі вядомых вучоных у галіне машынабудаўнічай вытворчасці. Замест павелічэння так званых шкодных плошчаў (прыйдзецца ўжыць, напэўна, не ўсім зразумелыя тэхнічныя тэрміны), Літвін прапаноўваў знішчыць гэтыя плошчы і дазіраваць паветра. Сам вырашыў правесці выпрабаванні і пераканаць тых, хто не згаджаўся з такім рашэннем праблемы. Узяў старую, ужо знятую з вытворчасці машыну, прыстасаваў да яе спецыяльны клапан і папрасіў вопытных рабочых некаторы час папрацаваць на гэтай машыне. Эфект, як гавораць, перавысіў усе чаканні. Рабочыя адмовіліся працаваць на ўсіх іншых машынах, дзе няма «клапана Літвіна», і хутка новае абсталяванне атрымала ў цэху, здавалася б, надзейную прапіску. Пачалося афармленне аўтарскіх правоў на вынаходніцтва.

Але аднойчы ў цэху здарылася аварыя. Машына, на якой быў клапан Літвіна (ён так называецца і цяпер — клапанам Літвіна), пачала даваць брак, потым зусім выйшла са строю. Кампетэнтная камісія вынесла сваё заключэнне, і вынаходніцтва маладога рабочага адразу ж набыло свой, вельмі небяспечны ў той час ярлык. Яго назвалі шкодніцкім.

Вы ведаеце, што ў 1936—37 гадах значыла гэта слова «шкодніцтва»? Пасля «размовы» ў пэўных органах, аднойчы ноччу Літвін цішком прабраўся ў свой цэх і зняў з усіх станкоў свой клапан, сваё дзецішча. Зняў і ўсю ноч аж да світання праседзеў у цэху, ногі не слухаліся, не мог пайсці дамоў, быццам толькі што пахаваў вельмі блізкага, роднага чалавека... А назаўтра раніцою, калі ў цэху заўважылі, што клапаны зніклі, і калі высветлілася, што машыны адразу ж пачалі працаваць горш, Літвіну «прыпісалі» яшчэ больш страшэннае, яшчэ больш небяспечнае злачынства. Занадта пільныя людзі абвінавацілі ў наўмысным, зноў-такі варожым «выпадзе» — у зрыве стаханаўскага руху...

...А потым зноў пайшлі за годам год. Сам Літвін ніколі нідзе не рашаўся ўспомніць пра гэты злашчасны клапан. І толькі пасля вайны, калі яго накіравалі працаваць на Мінскі трактарны завод, уся гэтая гісторыя ўсплыла зноў, усплыла ў самым нечаканым, трэба сказаць, шчаслівым варыянце. Малады трактарны завод сутыкнуўся з той жа праблемай — недастатковай эканамічнасцю пнеўматычных фармовачных машын. Пачаліся пошукі ў тэхнічнай літаратуры, падручніках. У адным з іх, які быў выдадзен ужо ў канцы 40-х гадоў, падрабязна апісваўся «клапан рабочага Літвіна», прыводзіліся выкладкі яго эканамічнасці, указвалася, што амаль на ўсіх трактарных заводах машыны маюць цяпер гэтае прыстасаванне.

— Ну як гэта вы маўчалі дасюль? Нам жа так патрэбны ваш клапан...—з дакорам сказаў Літвіну дырэктар завода.

Пётр Іванавіч на хвіліну нізка апусціў галаву, а калі ўзняў яе, то на твары разам з многімі іншымі пачуццямі свяцілася гордасць, гордасць рабочага чалавека, імя якога ўсё ж, нягледзячы ні на што, ўвайшло ў гэты тоўсты падручнік па машынабудаванню.

І зноў знайшліся занадта пільныя людзі. «Баталію» з імі не перакажаш, бо нават не перачытаеш у адзін заход тую шэрую папку з дакументамі, перапіскай, даведкамі і яшчэ бог ведае чым, якую сам Літвін называе цяпер «справай аб маім вынаходніцтве»... Урэшце рэшт справядлівасць была ўстаноўлена. Прыгожая кніжачка, вельмі падобная на пасведчанне аб узнагародзе ордэнам, пацвярджае цяпер аўтарскія правы Літвіна на вынаходніцтва. Хаця з таго часу, як у цэху Чалябінскага трактарнага завода на адной са старых зношаных машын быў устаноўлен цудадзейны клапан, прайшло ледзь не чвэрць стагоддзя...

Расказам сваім Пётр Іванавіч нагадаў той час, аб якім толькі цяпер людзі пачалі ўспамінаць смела і без боязі, успамінаць з болем і горыччу. То праявецца гэты боль праз радкі апавяданняў у свежым нумары газеты ці часопіса, то праз нататкі пра сябра-пісьменніка з дакументальнай скупой трагічнасцю слоў: «ён мог бы напісаць многа кніг...» Вам не здаралася задумвацца, чаму іменна цяпер, калі ўсе мы так глыбока, так непахісна пераканаць, што той час ніколі не вернецца на нашу зямлю, чаму ж мы ўсё ўспамінаем і ўспамінаем, чаму іншым разам нават занадта ўжо дэталёва перабіраем у памяці падзеі, аналізуем паводзіны і пачуцці людзей у тыя часы? Не толькі ж, напэўна, для таго, каб паведаміць патомкам пра нашу трагедыю, і нават не для таго, каб адно раскрыць сённяшняму пакаленню старонку ўжо даволі далёкай гісторыі....

Людзям мала таго, што цяпер кожны чалавек, які жыве сумленна і сумленна працуе, можа спакойна падняцца ноччу з ложка і адчыніць дзверы на неспадзяваны стук. Людзі не жадаюць, каб хоць што-небудзь, хоць самым далёкім адгалоскам нагадвала той стыль, той дух, тую атмасферу, калі чалавек мог падазрона касіцца на другога чалавека, калі твая годнасць, твой гонар, твая асоба магла быць зняважана самым бяскрыўдным на першы погляд чынам, нават з такога повада, што «закон ёсць закон». Людзі і самі добра ведаюць, што «закон ёсць сапраўды закон», але не жадаюць — і правільна робяць!—лічыць, што ён існуе толькі для таго, каб прынізіць чалавека сваёй суровай пільнасцю. Цяпер здаецца, што нават самыя сухія параграфы законаў нібы пацяплелі, павярнуліся тварам да людзей. Толькі б самі людзі, усе тыя, хто пастаўлен паміж законам і чалавекам, ніколі не забываліся аб гэтым і не жылі па старой звычцы, па інерцыі. Але сярод гэтых людзей сустракаюцца і такія, хто ўсё ж забываецца аб тым, што прыйшоў іншы час.

На такі вось роздум мяне навяла гісторыя Літвіна. Не першая, аб якой ужо расказана, а другая, аб якой яшчэ трэба расказаць. З поваду яе, другой гісторыі—зноў гісторыі пра абразлівую пільнасць — і нарадзіўся на свет гэты артыкул.

..У рэдакцыю прыйшла жанчына. Прыйшла і ледзь не за руку павяла аўтара гэтых радкоў на кватэру да Пятра Іванавіча Літвіна. Ледзь не за руку, бо, прызнацца, пры словах: «гутарка пойдзе аб пенсіі» журналісцкая зацікаўленасць тэмай не вельмі ўзрастала.

(Заканчэнне на 4 стар.).

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

У Літаратурны музей Якуба Коласа паступіў цікавы фотаздымак. Яго перадаў жыхар горада Дзяржынска Хведар Ігнатавіч Калечыц, які разам з Якубам Коласам вучыўся адзін год у Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Якуб Колас перад заканчэннем семінарыі быў назначан старшым групы маладых, у якой знаходзіўся Хведар Ігнатавіч.

Прайшло шмат год. У 1926 годзе ў адной са школ горада Мінска адзначалася 20-годдзе з дня арганізацыі і правядзення настаўніцкага з'езда ў Мікалаеўшчыне. У юбілеі прыняў удзел і Хведар Калечыц. Тут ён зноў сустрэўся з Якубам Коласам, пабачыўся з удзельнікам з'езда Янкам Маўрам. Народны паэт пасля пасяджэння запрасіў Хведара Ігнатавіча да сябе на кватэру. Там яны ўспомнілі семінарскія гады, расказалі аб сваім жыцці, аб рабоце. У той час яны і сфатаграфаваліся. На здымку, які друкуецца ўпершыню, вы бачыце Якуба Коласа, Янку Маўра, Хведара Калечыца і іншых.

# ПІСЬМЫ І ФАТАГРАФІІ ПЕСНЯРА

Нядаўна жонка беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага — Чарняўская Леаніла Усцінаўна і іх дачка — Гарэцкая Галіна Максімаўна перадалі Літаратурнаму музею Якуба Коласа Акадэміі навук БССР цікавыя дакументы: тры фатаграфіі Якуба Коласа 20-х гадоў, сярод якіх дзве групавыя, два яго пісьмы (ад 17.IV.1927 г. і 9.XI.1927 г.) і пісьмо жонкі Канстанціна Міхайлавіча — Марыі Дзмітраўны да Леанілы Усцінаўны ў Вятку ад 24.XI.1932 г., у якім паведамляюцца некаторыя цікавыя звесткі з жыцця коласавай сям'і.

На асобнай фатаграфіі ёсць аўтограф паэта: «Дарагому Максіму Іванавічу Гарэцкаму. Якуб Колас. 26.IV.1925 г.». Другая фатаграфія адносіцца да 1925 года, на ёй мы бачым Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Цішку Гартнага, Максіма Гарэцкага сярод членаў гуртка беларускай культуры рабфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Трэці здымак зроблен ў 1927 годзе ў Горках, дзе Якуб Колас сфатаграфаваны з групай жанчын-беларусак, сярод якіх — Паўліна Мядзёлка, Леаніла Чарняўская і іншыя. Ім жа ў пісьме ад 9.XI. 1927 г. паэт пісаў:

«Я не знаходжу адпаведных слоў, каб выказаць Вам, мілыя жанчыны-беларускі, маю радасць і маю падзяку за павіншаванне, а таксама не магу звярнуцца да Вас, як бы гэта трэба было. Назаву хіба Вас гэтак:

«Цвет і краса жанчын
Беларускай зямлі!»

З гэтага Вы і пачынайце чытаць маё гэтае пісьмо... Пішу трохі няскладна, можа ад таго, што пагода такая паганая, гнілая, санлівая, і сам я не зусім здаровы. Пачала балець мая нага. Дзён пяць не ўставаў з пасцелі, і ўжо з месяц часу, як хаджу я, пакульгваючы. Першы раз у жыцці чую, што ў мяне ёсць левая нага і што не яна мяне носіць, а я яе. Застудзіў недзе. А можа гэта старасць пляце на мяне свае сеці. Журботна гэта, але што ты зробіш? Работа ў мяне ідзе марудна. І зноў жа такі мушу зазначыць, што гэта першы такі мой год у Мінску, калі прадукцыйнасць мае работы значна паніжана. На гэта, вядома, ёсць важкія прычыны, але казаць Вам аб іх нецікава. Пачаў пісаць адно апавяданне ды адлажыў, узяўся за другое. Як відаць, ужо да канца гэтага года за сур'ёзную работу так і не вазьмуся, а ўжо з новага году засяду за сваю паэму. Тады я зноў ажыву. Чакаю, калі выйдзе з друку другая часць «Палескай глушы». Тады кожнай з Вас прышлю па кнізе, бо Вы такія мілыя і слаўныя, што калі толькі пачнеш аб Вас думаць, дык весялей і святлей робіцца на сэрцы. Мяне вельмі цешыць, што ў Вас ёсць цёплыя хаты, і ў гэтых хатах калядамі я маю замах пабыць, каб паглядзець на Вас і пагутарыць у Вашай мілай кампаніі. Калі надыдзе гэтакі час, то я паведамлю Вас пісьмом. Навін такіх асаблівых няма. Жывуць людзі патроху. Нельга сказаць, каб жыццё гэтае з майго погляду было цікавае, дык я больш сяджу дома. У бліжэйшыя дні думаю пераехаць ужо ў сваю хату, а Ваш абавязак — быць у Мінску і даведацца да мяне.

Шчырае прывітанне дзядзьку Максіму. Я, прызнацца, часта думаў над тым, што яму трэба напісаць ліст, але ўсё нейк не сабраўся. Паклон і Гаўруку.

А цяпер дазвольце шчыра паціснуць Вашы рукі і пацалаваць Вас хоць у сваіх думках.

Бывайце шчаслівыя і вясёлыя.

Шчыра адданы
Ваш Якуб Колас».

Другое пісьмо Якуба Коласа, адрасаванае Леаніле Усцінаўне Чарняўскай, мае наступны змест:

«Глыбокапаважаная Ляонія Усцінаўна!

Шчыра дзякую Вам за Ваша пісьмо. Я не спускаў з мыслі свайго абяцання заехаць у Горкі. Мусі быць, не дачакаюся я, пакуль распусцяцца на бярозах лісточкі, і прыеду раней. Калі б вясна не запазнілася так, то мой прыезд у Горкі супаў бы якраз з часам распускання бярозавых лісцяў. Я думаю прыехаць у Горкі 24.IV, бо іншага часу выбраць мне трудна. Выеду ў суботу 23.IV у 10 г. 50 м., а ў Горках буду 24 раніцаю. Прывітанне дзядзьку Максіму і мілым жанчынам-беларускам. Усяго найлепшага.

Якуб Колас.
17.IV.1927 г.»

Мікола БАЗАРЭВІЧ,
навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Я. Коласа.

# НА НЕСПАКОЙНЫХ ХВАЛЯХ ЭПОХІ

П. МАКАЛЬ

Ці патрэбна ў наш час мастацтва? Здавалася б, каму ў галаву прыйдзе такое пытанне... А між тым, менавіта яно ўсяго некалькі год назад выклікала цэлую шумную дыскусію **фізікаў і лірыкаў**. І хоць відавочнай была марнасць намаганняў тых, хто спрабаваў давесці; быццам мастацтва зараз дажывае свае дні, размова гэтая ўзнікла не выпадкова. Апошнія дасягненні навукі і тэхнікі настолькі грандыёзныя, што абыякавым да іх не можа застацца, бадай, ніводзін жыхар планеты. Подзвігу першых касманаўтаў апладзіравала ўсё чалавецтва. Трэба прызнаць, што ў параўнанні з гэтым поспехі сучаснага мастацтва даволі сціплыя. Да сваіх зорных вышынь, у свой «космас» лірыкі, відаць, яшчэ не праніклі.

Рэактыўныя хуткасці скарацілі адлегласці паміж кантынентамі і народамі. Аднак яшчэ больш акрэсліўся водападзел паміж двума сусветнымі лагерамі, паміж двума светамі. З аднаго боку — праграма небывалага росквіту грамадства. З другога — пагроза ядзернай катастрофы. У гэтым адна з галоўнейшых супярэчнасцей эпохі. У гэтым крык часу. Быць ці не быць? — гэтае гамлетаўскае пытанне паўстае зараз перад усім чалавецтвам. І таму, мне здаецца, не будзе перабольшаннем сказаць, што наш век — гэта ў пераважнасці век **думкі**. Маштабнасці мыслення, філасофскага роздуму над жыццём, шырыні мастацкіх абагульненняў — вось чаго вымагае ад лірыкаў час. Няцяжка заўважыць, што якраз гэтымі вартасцямі вылучаюцца найбольш буйныя з'явы савецкай паэзіі апошніх год — «Сярэдзіна веку» Лугаўскога. «За даллю — даль» Твардоўскага, «Чалавек» Межалайціса... Цікава, што ўжо самі назвы гэтых твораў, як бы акцэнтуюць у сабе тое галоўнае, што займае ці, ва ўсякім разе, павінна займаць сучаснага мастака: **час, чалавек і яго поступ...**

Чытач хоча, каб паэзія акрыляла яго, вымагала адказваць на тыя балючыя і складаныя пытанні, якія штодзённа ставіць жыццё. Вядома, патрабаванне, каб паэзія абуджала сур'ёзны роздум пра наш час, зусім не азначае, што яна пазбаўляецца права на так званыя інтымныя тэмы, на звычайныя «адвечныя» людскія радасці і пакуты. Гаворка хутчэй пра тое, што ў самым падыходзе да з'яў рэчаіснасці павінен прысутнічаць погляд сучасніка. Значнасць жа той ці іншай тэмы па-сапраўднаму вызначаецца толькі ў яе мастацкім выкананні. Вазьміце хоць бы пакарэнне космасу. Больш удзячную тэму, бадай, цяжка і знайсці. Здавалася б, дзе ўжо болей прастору для думкі! Дарэчы, большасць з вершаў, напісаных на гэтую тэму, не абвінаваціш у сухасці, у коснасці. Клічнікавымі інтанацыямі яны проста-такі перанаселены. Паэты на ўсе лады скланяюць словы «арбіта», «прыцягненне», «ракета»... І ўсё ж творы атрымліваюцца, калі карыстацца касмічнай тэрміналогіяй, часцей за ўсё бязважкімі. Чаму? Гэтым вершам нестае палёту думкі, не хапае пранікнёнасці паэтычнай і філасофскай. Касмічныя палёты — гэта зорныя гадзіны, зорныя суткі. Але за імі — гісторыя. Вякі. Ад Ікара да Гагарына адлегласць у тысячагоддзі. Гэта трэба асэнсаваць. Могуць сказаць: дайце час, маўляў, усю веліч падзеі ўсвядоміш, толькі зірнуўшы на яе з далечыні. Думаю, што тэорыю «дыстанцыі» літаратары павінны аддаць гісторыкам. Ва ўсякім разе, яна не для паэтаў. Наўрад ці ёсць патрэба прыводзіць прыклады, калі творы, напісаныя, як любяць гаварыць крытыкі, па гарачых слядах падзей, рабіліся з'явамі ў літаратуры.

Яшчэ планету апярэзвалі толькі першыя спадарожнікі, яшчэ свет не ведаў ніводнага з імён зорнай сям'і касманаўтаў, а мы з хваляваннем чыталі:

Вякамі глядзелі жанкі з-пад рукі,
Чакалі мужоў і сыноў.
І падалі зоркі, нібы светлякі,
У прорву бязрадасных сноў.
І самі касілі, і самі аралі,
А іх дарагія за іх паміралі.
Бялелі, як цвет той, іх чорныя косы,
І сцежкі у сад зарасталі...
І заўтра, як вырвуцца людзі у космас,
Іх гора лягчэйшым не стане.
Мы будзем усе стратанаўтаў вітаць,
А маткі — пякучыя сёзы глытаць.
Глядзець усю ноч ім да ранняй зары
У халодныя вочы сусвету
І думаць — ці зорка сягоння згарыць,
Ці з сынам любімым ракета.

Гэта з «Белых яблынь» Пімена Панчанкі. На першы погляд можа нават здацца дзіўным: чаму высокую «зорную» тэму паэт вырашае з дапамогай такога знаёмага нам, зямнога, вобраза? А менавіта якраз у гэтым глыбокі сэнс. Не бяздушнымі робатамі, а жывымі людзьмі прыляцім мы на іншыя планеты, і там спатрэбіцца і цвет яблыні, і ўсмешка каханай... Прачытаўшы верш, мы адчуваем, як па-новаму, як свежа і ўзнёсла прагучаў традыцыйны вобраз белых яблынь; яны тут не толькі ўвасабленне хараства нашай зямлі, але і сімвал усеперамножнасці чалавека-творцы, яго мудрасці, яго розуму. Як бачым, спрачацца лірыкам з фізікамі няма з-за чаго: у іх адны парыванні, адно высокае імкненне — засяліць Сусвет вялікай людскою любоўю.

Гаворачы пра сілу грамадскага ўздзеяння мастацтва, часта абмяжоўваюцца яго эстэтычным, яго выхаваўчым значэннем. Забываюць, што сапраўдная паэзія — яшчэ і дзейсны памочнік навукі, магутны сродак пазнання свету. Гісторыя ведае нямала выпадкаў, калі ідэі, выказаныя мастацтвам, папярэднічалі вялікім навуковым адкрыццям. Круг, намаляваны на скале першабытным мастаком, наштурхнуў чалавека на думку зрабіць **кола**, з якім звязана цэлая рэвалюцыя ў развіцці вытворчых сродкаў грамадства...

Але вернемся да паэзіі нашых дзён. Вось радкі, якія нібыта і звернуты ў мінулае:

У юнацтве мы некалі перажылі
Развітанне з зямлёй і тугу па зямлі.
У сорак першым, далёкім і горкім,
На пераправах ішлі мы ка дну.
Марачы ўбачыць чырвоную зорку
Хоць бы адзіную, хоць бы адну
На крыле самалёта.
(П. Панчанка. «Размова з наследнікам»).

Пра што гэта? Пра вайну? Так. Але не толькі. Гэта і пра пакарэнне космасу! Нялёгкая наша дарога да зор. І пачалася яна не сёння. Паэт знаходзіць такую дэталь, якая, нібы святлом пражэктара, выхоплівае малюнак з грознага мінулага, — і мы, як сваіх паплечнікаў, як жывых удзельнікаў сённяшняга штурму космасу, адчуваем побач з сабой тых, хто застаўся на дымных пераправах вайны. І нават тое, што ў вершы абрываецца апошні радок, зусім не выпадкова: гэтым падкрэсліваецца драматызм паэтычнага малюнка. Хоць гэты верш звернуты ў мінулае, пра яго не скажаш, што ён гучыць не сучасна. Дзякуючы ўдумліваму зроку і чуйнаму да жыцця слыху мастака тут словы набылі тую стэрэафанічнасць, аб'ёмнасць гучання, якой адрозніваецца сапраўдная паэзія.

Гутарка ішла пра тэму касмічную, новую для паэзіі. А як жа з тым звычайным, зямным, што нас штодзённа займае і хвалюе?

Па-мойму, для аўтара, які ўмее не толькі рыфмаваць, але і думаць, не існуе дробязных тэм. Той ці іншы куток жыцця, які прыцягнуў яго ўвагу, прываблівае не толькі сам па сабе, а, галоўным чынам, у сувязі з тым, якія пачуцці, які роздум ён выклікаў, што дзякуючы яму паэт змог сказаць пра час і пра сябе.

Колькі раз апеты паэтамі росныя травы, мурожныя лугі. Але вось перад намі верш М. Танка «Дарога з сенажаці». І напісаны ён як быццам звычайна, проста: няма ў ім нечаканых рыфмаў, ашаламляльных модных метафар. «Дзень даўно павесіў на сасне касу зары», «Лесавік падпальвае карчы», спрачаюцца салаўі з «камарынай талакою звонкай» — такімі мяккімі лірычнымі мазкамі ствараецца вячэрні пейзаж, убачаны вачыма працаўніка, улюбёнага ў родныя краявіды... Але чытаем далей:

Пахнуць перастпелыя суніцы.
Чую подых кожнага лістка.
Чую, як духмяная іглiца
Ападае з голляў сасняка.

Чую, як міжзорныя ракеты
Пралятаюць недзе нада мной...
Можа, мы — апошнія паэты,
Што вось так цікавяцца зямлёй?

І гэтая апошняя страфа, якая ўзнікае так нечакана і разам з тым так натуральна, як бы новым святлом пранізвае ўвесь верш: у ім мы пазнаём чалавека дапытлівай думкі, нашага сучасніка з яго зямной заклапочанасцю і зорнай акрыленасцю. Не выклікае пярэчання і тое, што паэт свой слых так проста пераключае ад «сасновай іглiцы» да «міжзорных ракет», іх суседства ў вершы ўспрымаецца, як зусім зразумелае. Такая музыка веку. Гэта не аднатонная частушка, а шматпланавая сімфонія. Мастак павінен чуць яе і даносіць да іншых.

Зближаць далёкае, знаходзіць сувязі ў супрацьлеглым, адкрываць з'явы жыцця ў іх суадносінах з маштабамі часу, — ці не ў гэтым адна з галоўных задач паэзіі?

Новым спектаклем «Том—вялікае сэрца» па п'есе С. Багамазава і С. Шатрова, якая расказвае пра барацьбу каланіяльных народаў за сваё вызваленне, пачаў свой восьмы тэатральны сезон Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача. Пастаноўку п'есы ажыццявіў рэжысёр В. Пацехін, дэкарацыі да спектакля зрабіў студэнт-дыпломнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Ю. Тур.

У спектаклі заняты артысты Ул Говар-Бандарэнка, К. Мізгайла, М. Пятроў, Л. Міхайлаў, В. Піскун, В. Окалаў, Г. Ручынскі, Ю. Фляйто, А. Мацюкевіч і іншыя.

На здымку: сцэна са спектакля. У ролях: Лёшы — артыст М. Пятроў, Галінкі — артыстка К. Мізгайла.

Фота Ул. КРУКА.

# ХТО ДЫКТУЕ ГУСТЫ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

свабоднае і прасторнае памяшканне для цэлага цэха, што не так лёгка, трэба даўно было праявіць самім ініцыятыву і пераглядзець уласныя рэзервы, — за кошт скарачэння адных павялічыць другія. Такая манеўранасць зусім у духу часу.

Мы пазнаёміліся з работай адной фабрыкі мастацкіх вырабаў, але, відаць, не лепш справа абстаіць і на ўсіх астатніх дваццаці, якія падначалены Белмастакпрамтрэсту. Аб гэтым сведчаць і жлобінскія саламяныя шкатулкі, і цяжкія нязграбныя керамічныя вазы з Івянца, і навалачкі з Гродна. Гэтыя непатрэбныя, непрактычныя прадметы пакаёвага быту дапаўняюць у мастацкім магазіне швейныя вырабы.

Дзе ж пачынаецца жыццё гэтых вырабаў? Новымі мадэлямі і лекаламі ўсе прадпрыемствы мясцовай прамысловасці забяспечвае швейная эксперыментальная лабараторыя. Яна знаходзіцца тут жа, на тэрыторыі фабрыкі. Эскіз будучага вырабу нараджаецца тут. І не дзіва, што ў гэтай вялікай установе мы сутыкнуліся з тымі ж праблемамі, якія хвалююць калектыў і фабрычнай лабараторыі. Сапраўды, усім надакучыла вышыўка, па меры сіл яе імкнуцца рабіць простай, сучаснай, недарагой. Сапраўды, мадэлі прайграюць ад абмежаванага і аднастайнага асартыменту тканін, якія пастаўляе «Тэкстыльгандаль». Сапраўды, ад думкі мастака да гатовага вырабу адлегласць такая вялікая, што за гэты час самыя навейшыя мадэлі паспяваюць састарэць. Нарэшце, кадры і абсталяванне недастаткова падрыхтаваны і да манеўранасці, якая настойліва дыктуецца жыццём, і да забеспячэння добрай якасці вырабаў.

Мастак-мадэльер па адзенню Ніна Васільеўна Ерзянкова і кіраўнік групы прыкладнога мастацтва Алена Іосіфаўна Красічкава прыводзяць нам прыклады. «Тэкстыльгандаль» пастаўляе тканіны ўзору 1950 года. Новая фактура, новыя матэрыялы, якія скарыстоўваюцца для стварэння сучасных тканін, модныя расфарбоўкі пад увагу мастакамі лабараторыі не прымаюцца. Яны маюць справу з гладкаафарбаванымі шаўкавістымі тканінамі тыпу «прыма» і «аіда». У апошні час у невялікіх колькасцях ім даюць ільняныя тканіны. З імі працаваць больш прыемна і цікава. Мадэлі на ільне недарагія, прыгожыя, сучасныя. У іх паспяхова выкарыстоўваецца такая неабходная фабрыцы вышыўка. Гэта, напэўна, адзінае сур'ёзнае наваўвядзенне, здобранае мастацкім саветам і фабрыкамі за апошні год.

Але паглядзіце, якая доўгая яго дарога да пакупніка. Палатняная сукенка (мадэль 86-62) з кішэнькай ручной вышыўкі зацверджана мастацкім саветам 28 красавіка, маладзёжная сукенка з вышыўкай на блузе (мадэль 85-62) зацверджана 28 красавіка, палатняная сукенка для дзяўчынак-старшакласніц з прыгожым малюнкам аранжавых і карычневых таноў (мадэль 2-62) зацверджана 26 лютага. Цана гэтых вырабаў крыху больш за дзесяць рублёў. Што больш прыгожае і практычнае можна было б прапанаваць моладзі да летняга сезона? Але прыйшла восень, а гэтыя мадэлі і па сённяшні дзень не з'явіліся на прылаўках магазінаў. Іх адобрыў мастацкі савет і прынялі фабрыкі, іх хутка разабралі б пакупнікі, але хтосьці своечасова не дагледзеў, хтосьці не распрацаваў тэхналогію, і мадэлі не пайшлі ў вытворчасць. Магчыма, яны з'явяцца да наступнага лета, але тады мода прадыктуе свае новыя патрабаванні і добрыя вырабы акажуцца састарэлымі.

Вось чаму і сёння ў швейным цэху мы бачылі ўсё тых жа цёмных таноў шарсцяныя, непрыгожыя сукенкі. Тут свае цяжкасці асваення новага фасону — раскіданы аперацыі, няма канвеера. І ўсё-такі пры існуючых умовах толькі адзін дзень затрачваецца на пераход да новага вырабу па гатовых лекалах. Значыць, усё пытанне ўпіраецца ў распрацоўку тэхналогіі новага вырабу.

Сучасныя лініі адзення простыя і зразумелыя. Чаму ж усё такі, пры агульным жаданні мастакоў, выканаўцаў і пакупнікоў бачыць адзенне модным і прыгожым, не здымаюцца з вытворчасці мадэлі 1957, 1959, 1960 гадоў? Чаму не выкарыстоўваюцца новыя тканіны? Чаму не ўмацоўваецца атрад людзей, занятых распрацоўкай тэхналогіі? На гэтыя пытанні на фабрыцы нам далі толькі адзін адказ: наш пакупнік моду не прызнае. А пра тое, што густ гэтага пакупніка трэба ўсё-такі выхоўваць, ніхто чамусьці не гаварыў.

Аб гэтым мала думаюць і ў самім Белмастакпрамтрэсце. З нашай заўвагай аб тым, што ў магазіне мастацкіх вырабаў шмат безгустоўных грубых рэчаў, В. А. Кенгурава, кіраўнік трэста, ахвотна згаджаецца:

— Трэба пайсці паглядзець, што там у іх робіцца, і прымусіць убраць лішняе.

А хіба гэта цяжка было зрабіць раней? Некаторыя ж тавары ляжаць у магазіне не дні і месяцы, яны захоўваюцца гадамі. Як паведаміла нам галоўны інжынер трэста, на прадпрыемствах толькі 15—20 працэнтаў сучасных вырабаў. Няўжо гэта лічба не хвалюе кіраўніцтва Белмастакпрамтрэста?!

З новага года ў рабоце мастацкай фабрыкі павінны адбыцца вялікія змены. Перш за ўсё, яна перастане шыць адзенне і будзе мець магчымасць цалкам спецыялізавацца на вырабах, якія ўпрыгожаць наш быт. Але калі гэта будзе рабіцца ранейшымі сіламі, калі баявым клічам па-ранейшаму застанецца: рабі, што бяруць, г. зн., калі фабрыка па-ранейшаму будзе кіравацца самымі пасрэднымі густамі — наўрад ці становішча зменіцца. Мастацкі промысел існуе не толькі на выгаду рынку. Гэта традыцыя, гэта нацыянальная гордасць. І не трэба, прыкрываючыся словам «мастацкі», ператвараць яго ў грубую халтуру.

В. АКУНЬКОВА,
Т. АРЛОВА.

## На „Гомсельмашы"

На заводзе «Гомсельмаш» пачаў працаваць кіналекторый «Мастацтва належыць народу». Першую лекцыю «Мастакі-перасоўнікі» прачытаў мастацтвазнаўца т. Сырамятнікаў. Пасля лекцыі слухачам лекторыя быў паказан кінафільм «У Траццякоўскай галерэі».

* * *

Падведзены вынікі конкурсу-агляду творчасці самадзейных мастакоў і фотааматараў «Гомсельмаша». Звыш месяца ў заводскім Палацы культуры дэманстраваліся працы мастакоў — наладчыка малярнага абсталявання аддзела галоўнага тэхнолага Івана Міхайлава, рабочага ліцейнага цэха коўкага чыгуну Міколы Чумакова, мастака Палаца культуры П. Хацімцава, фотаздымкі з жыцця, працы і вучобы камбайнабудаўнікоў токара другога механазборачнага цэха Міколы Худалеева.

Удзельнікі заводскага конкурсу-агляду атрымалі прэміі.

В. СЯМЁНАЎ.

